ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# Сяброўства бывае і прафесійным

*МАЛАДЗЕЧНА. Адбыўся чарговы сход гарадскога прафсаюза прадпрымальнікаў, на якім вырашаліся пытанні, якія хвалююць кожнага прадпрымальніка. Маладзечанскі прафсаюз "Садружнасць" зарэгістраваны і пастаўлены на ўлік у гарвыканкоме. Ён цяпер актыўна працуе з членамі прафсаюза: тлумачыць новаўвядзенні ў падатковай палітыцы дзяржавы, праводзіць юрыдычныя кансультацыі з членамі прафсаюза, адстойвае правы прадпрымальнікаў ва ўсіх колах улады.*



*Маладзечанскія прадпрымальнікі на сходзе ў Доме культуры чыгуначнікаў.*

Прафсаюз хоча дабіцца, каб прадпрымальнік мог працаваць спакойна, легальна, не баяўся, што ў любы момант яго аштрафуюць. Сітуацыю на Маладзечанскім рэчавым рынку пракаментаваў актывіст прафсаюза **Аляксандр Цінко**.

**– Як доўга будуць баставаць прадпрымальнікі?**

– Па–першае, маладзечанскія прадпрымальнікі не бастуюць, а вымушаныя не працаваць. А рынак дзейнічаць не будзе да таго часу, пакуль не будуць створаныя ўмовы для гандлю.

**– На рынку шмат грамадзян не толькі Беларусі, як яны рэагуюць на сітуацыю?**

– Сітуацыя паказвае, што сяброўства бывае не толькі таварыскім, але і прафесійным: у сераду на рынак не выйшлі не толькі беларускія прадпрымальнікі, але і армяне, азербайджанцы, в'етнамцы і г. д.



*Адзін з лідэраў маладзечанскага прафсаюза прадпрымальнікаў Аляксандр Цінко.*

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

*Валянцін ГЕРНОВІЧ.*

СУВЯЗЬ

# 96% структурных падраздзяленняў аб"яднання «Белтэлекам» у першым паўгоддзі спрацавалі стратна

*МІНСК. Вынікі работы галіны за першае паўгоддзе, падведзеныя 30 ліпеня на пасяджэнні калегіі Міністэрства сувязі, былі несуцяшальныя.*

Міністр сувязі **Уладзімір Ганчарэнка** адзначыў, што за паўгода даходы ад асноўнай дзейнасці аб'яднанняў і прадпрыемстваў сувязі склалі больш за 20,7 трыльёна рублёў (104,2% да плана), а аб'ём рэалізацыі паслуг насельніцтву — больш за 6,7 трыльёна рублёў (106,5%). Тым не менш, эканамічны стан характарызуецца, як нездавальняючы. Не ўдалося забяспечыць без страт работу асноўнай колькасці прадпрыемстваў. Агульная сума страт па галіне склала каля 1,5 трыльёна рублёў, у тым ліку ад рэалізацыі прадукцыі — каля 500 мільярдаў. Стратнымі па выніках паўгоддзя аказаліся 96% структурных падраздзяленняў аб'яднання «Белтэлекам»; агульная сума страт — больш за 1,5 трыльёна рублёў. Агульная сума страт па РА «Белпошта» склала 196 мільярдаў рублёў.

*Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.*

*Па просьбе "РГ" сітуацыю каменціруе начальнік маладзечанскага раённага вузла электрычнай сувязі Леанід ВАЛАТОВІЧ.*

– Сітуацыя, сапраўды, склалася не вельмі прыемная. Як па галіне ў цэлым, так і па маладзечанскім РВЭС, у прыватнасці. Справа ў нізкіх тарыфах на паслугі. Электрычная сувязь – гэта, па–першае, тэлефон. Толькі тарыфы за міжнародныя перагаворы, так бы мовіць, "самаакупныя"; мясцовыя і міжгароднія расцэнкі лічацца проста смешнымі па мерках іншых краін. Тэлеграфам у наш час карыстаюцца даволі рэдка. А "дарагія" сродкі электрычнай сувязі накшталт E-mail, Intrernet, хоць і забяспечваюць усе жаданні і патрэбы кліентаў, маюць, на жаль, мала карыстальнікаў.

З–за грашовых праблем узнікаюць у Маладзечне і цяжкасці з устаноўкай новых тэлефонных нумароў. Беларускае абсталяванне для гарадскіх АТС не адпавядае патрабаванням часу, а імпартныя АТС каштуюць нямала. Горад і так ужо дазволіў сабе набыць славенскую АТС, якая абслугоўвае амаль 9000 гараджан.

Чарга на ўстаноўку тэлефонаў дасягнула ў раёне каля 3500 чалавек, у Маладзечне – каля 4000. А многія жыхары новабудоўляў мікраранаў №4, №6, №10, увогуле, не надта хутка дачакаюцца тэлефонных званкоў.

*Таццяна ЦІТАВІЦКАЯ.*

# Новыя тэлефоны ў Смаргоні

СМАРГОНЬ. На адну тысячу нумароў расшырылася тэлефонная сетка горада ў першым паўгоддзі. Цяпер у Смаргоні налічваецца 10 тысяч тэлефонных абанентаў.

Колькасць асноўных тэлефонных апаратаў у цэлым па раёне ўзрасла на 8 працэнтаў і складае цяпер 12,6 тысячы, з якіх больш за 80 працэнтаў належыць насельніцтву.

Новыя лічбавыя аўтаматычныя тэлефонныя станцыі беларускай вытворчасці на 500 і 300 нумароў адпаведна працуюць з нядаўняга часу ў смаргонскіх вёсках Залессе і Жодзішкі. На падыходзе мантаж аналагічнай станцыі ў вёсцы Солы на 400 нумароў.

Начальнік раённага вузла электрасувязі **Іван Добрук** лічыць, што праз тры–чатыры гады ў раёне будзе 15 тысяч тэлефонаў, усе жадаючыя будуць мець іх у дамах і кватэрах. Дарэчы, усяго ў горадзе налічваецца каля 12 тысяч сем'яў.

*Павел МАКЛЮК.*

СВЯТЫ

# Таццяна Вашкевіч можа сказаць усё

## (што думае пра дырэктара)

*РАДАШКОВІЧЫ. 25—годдзе з дня выпуску першай керамічнай прадукцыі ААТ "Белмастацкераміка" адзначыла з размахам.*



*Юбілей «Белмастацкерамікі» стаў святам для ўсяго мястэчка.*

Мастакі зрабілі юбілейную вазу; у выдавецтве "Тэхнапрынт" накладам у 1000 экземпляраў выйшла кніга "Нам засталася спадчына", якая расказвае пра гісторыю прадпрыемства і яго людзей; праведзена свята, якое ператварылася ў агульнае для ўсіх жыхароў мястэчка. У госці да юбіляраў завіталі прадстаўнікі з розных куткоў краіны. Было мноства віншаванняў і падарункаў, быў канцэрт, у якім бралі ўдзел **Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Валерый Скаражонак і Стэла**... Вёў яго артыст **Георгій Воўчак**.

Галоўны ўрач санаторыя "Сасновы бор" **Аляксей Хомчык** падарыў "Кераміцы" песню "Юбілейная" (музыка – **Сяргея Кавалевіча**, культмасавага арганізатара прадпрыемства). Гучала "Юбілейная" ў выкананні **Жанны Багжаноўскай, Светы Рабушкі, Iры Сянько, Алега Гваздзюкевіча**, пад песні якіх юбіляры і госці пасёлка танцавалі да 2 ночы. Атмасферу свята стварыў запушчаны напярэдадні фантан, увечары – феерверк, якога тут ніколі яшчэ не было. Некалькі разоў спрабаваў сапсаваць настрой дождж, але гэта яму так і не ўдалося.

Праводзіліся конкурсы, розыгрышы. Галоўны прыз – вялізную керамічную вазу, выкананую па індывідуальным заказе, атрымала Таццяна Вашкевіч (брыгадзір участка роспісу). І, як дадатак да вазы, – ганаровая грамата, згодна з якой пераможца можа на працягу года ўзяць адгул у дзень нараджэння, бясплатную пуцёўку ў санаторый, дом адпачынку.

І, акрамя ўсяго, уладальніцы граматы даецца магчымасць выказаць дырэктару прадпрыемства і старшыні прафкома ўсё, што пра іх думае. Без наступстваў.

*Надзея ЛІСАВА, Мікола ЛІННІК.*



*Валерый Скаражонак і Стэла на вялікую сцэну прыйшлі з Вілейкі і Маладзечна, таму іхні прыезд у Радашковічы быў заканамерны.*



*Творча вёў свята Георгій Воўчак.*

ФОТА МІКОЛЫ ЛІННІКА.

СІТУАЦЫЯ

# Верталёт не пралятаў?

*МАЛАДЗЕЧНА. Міхаіл Ліхачоў летась атрымаў дыплом лаўрэата конкурсу лепшых прадпрымальнікаў Мінскай вобласці. У прыбудове да інтэрната №17 па Ф. Скарыны ён вырабляе макарону пяці відаў.*

45 ягоных работнікаў працуюць у тры змены. Зразумела, украінска–расійская лінія "гучыць" і ноччу. Адсюль і скаргі жыхароў: шумна, вокны не адчыніць. Асабліва макаронную вытворчасць чуваць, калі спыняецца рух транспарту на вуліцы.

– Мы працуем трэці год, – гаворыць Міхаіл Ліхачоў, – але скаргі пайшлі толькі цяпер, хаця з 4 ліній у нас засталося тры. Шуму стала меней. А наогул, да прамысловага шантажу мы звыклыя. Прыходзіць жанчынка з просьбай кампенсаваць ім маральныя страты прадукцыяй. Хаця нашу вытворчасць увесь час кантралююць розныя службы: перыядычна замяраюцца шумы, правяраецца санітарны стан, якасць вырабаў.

Міхаіл Ліхачоў вырабляе макароны каля 50 тон у месяц, чым дапамагае напоўніць гандлёвыя паліцы. А яшчэ за плошчы, якія арандуе, штомесяц плаціць арэнду, эквівалентную 600 доларам, будаўнічай арганізацыі, якая ўтрымлівае інтэрнат.

– Раней на плошчы, што цяпер мы арандуем, збіраліся вернікі. Нейкая секта праводзіла богаслужэнні, – гаворыць прадпрымальнік, – дакладна ведаю, жыхары інтэрната і тады скардзіліся. Можа, гэта нейкая наша нацыянальная рыса?!

Жыхары суседняга інтэрната, вокны пакояў якога выходзяць на макаронную вытворчасць, расказвалі смешны выпадак. У госці да адной жанчыны прыехалі сваякі. Раніцой адзін з гасцей гаворыць:

– Чулі, верталёт над інтэрнатам кружыў? Мабыць, злачынцаў высочваў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Чатыры гады жанчына шукае вінаватых у трагедыі

## Сын застрэліўся ў дзень нараджэння маці

МАЛАДЗЕЧНА. З жніўня па кастрычнік у Соф'і Субаткоўскай абвастраецца хвароба. Аптэчку з таблеткамі, ампуламі, шпрыцамі жанчына заўсёды носіць з сабою. Ноччу не ідзе да яе сон. Тут таксама выратоўваюць лекі. Без іх начныя жахі спыняюць сэрца, ад іх стыне кроў у жылах. І так ужо чацверты год.

25 ліпеня 1995 года сына Сашу прызвалі ў армію. 11 кастрычніка (праз два з паловай месяцы), у дзень нараджэння маці, Аляксандр Субаткоўскі загінуў.

З паведамлення Маладзечанскага ваенкамата: "... загінуў шляхам самагубства, стрэлам з аўтамата ў твар, калі знаходзіўся на пасту ў каравуле".

Соф'я Аляксееўна і цяпер не губляе надзеі, што вінаватых у той трагедыі назавуць і пакараюць. Таму і звярнулася да саслужыўцаў сына з просьбай адгукнуцца таго, хто што–небудзь ведае.

Аляксандр вучыўся ў маладзечанскай СШ №11, потым скончыў ПТВ–21. Характарыстыкі з гэтых навучальных устаноў падобныя. З іх сведчыць, што Субаткоўскі – не звычайны "шэры пэтэвэшнік": "... займаўся ў драмгуртку клуба "Алый парус" пры ЖРЭУ–4. Некалькі год быў экскурсаводам у школьным музеі". "Наведваў гурткі тэхнічнай творчасці". А мэта была – паступіць вучыцца ва ўлікова–планавы тэхнікум.

Маці была задаволеная, што сын служыць побач – ва Уруччы пад Мінскам. Аднак першы ліст родных напалохаў: "Тэрмінова прыязджайце. Прывязіце мне лыжку, а то здохну з голаду". У Аляксандра нехта ўкраў лыжку, а набыць іншую магчымасці не было. Салдацкую кашу чэрпаў хлебнай скарынкай. Пачаў балець страўнік.

Вытрымка з ліста Упраўлення выхаваўчай работы і інфармацыі Міністэрства абароны РБ: "Па медыцынскую дапамогу Ваш сын звяртаўся 30.07, 7.08, 11.08, 8.09. Яму быў пастаўлены дыягназ: хранічны гастрадуадзеніт".

З ліста хлопца сяброўцы Вользе Х.: "... я не змог адкрыць скрынку боепрыпасаў сапёрнай лапаткай. "Ляцёха" (лейтэнант – рэд.) ўзяў у мяне лапатку, адкрыў скрынку і лапаткай мне па галаве "звезданула"".

Соф'я Субаткоўская мае дакументы, якія сведчаць, што акрамя таго, у роце былі нестатутныя ўзаемаадносіны: у прыватнасці, пасля адбою маладых салдат падымалі і прымушалі выконваць фізічныя практыкаванні.

– З іх роты збег салдат, якога шукалі два дні, – гаворыць жанчына, – яшчэ адзін спрабаваў застрэліцца, аднаго адправілі, як псіхічна хворага, у Навінкі. Вось у такой роце "меў гонар" служыць і мой сын.

Тады, 11 кастрычніка, Соф'я Аляксееўна на свой дзень нараджэння запрасіла гасцей. Гадзін у 11 раніцы патэлефанавалі з вайсковай часці і паведамілі, што з сынам здарыўся няшчасны выпадак. Потым, моцна нервуючыся, накручвала ўжо яна мінскія нумары тэлефонаў, крычала ў трубку, каб паведамілі, што канкрэтна здарылася. А палове дванаццатай прыйшлі госці. Пра няшчасны выпадак Соф'я Аляксееўна на той час ужо ведала, і яе ратавала хуткая дапамога.

Праз некалькі дзён у ваеннай пракуратуры ёй аддалі блакнот, што знайшлі ў шынялі сына. Апошні развітальны ліст маці Саша пісаў на каравульным пасту за некалькі хвілін да стрэлу:

"Даруй мне, маці. Я быў для цябе, магчыма, добрым сынам. Я скончыў жыццё самагубствам. Я і так знаходзіўся на мяжы, а як укралі ў мяне штык–нож – гэта стала апошняй кропляй. Але я ж не вінаваты. Шкада ўсіх родных. Даруй, калі зможаш, што я прыношу табе такі боль. Танюшы перадай, што я яе вельмі люблю. Перадай апошняе прывітанне сябрам. Асабліва шкада бабулю, я яе таксама вельмі люблю. Мама, прабач, што сапсаваў табе дзень нараджэння. Даруй. Усё.".



Дзень прысягі для Аляксандра быў урачысты.



Хто мог чакаць, што вось такім будзе вяртанне са службы?

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА СУБАТКОЎСКІХ.

– Ваенныя з часці, дзе служыў сын, унеслі ў кватэру труну, – гаворыць Соф'я Аляксееўна, – аднак так спяшаліся, што забыліся зняць са сваёй машыны прывезены вянок, пакінуць парадную ваенную форму, каб пераапрануць сына. Ваенкамат паслаў на пахаванне духавы аркестр. Машыну, каб труну прывезці на могілкі, у іх не бралі, бо яны запрасілі 20 літраў бензіну. Падчас пахавання ніхто з ваенкамата не сказаў ніводнага слова.

Соф'я Субаткоўская хоча, каб вінаватых у самазабойстве сына назвалі і пакаралі. Яна не згубіла надзею. Хаця ваенная пракуратура Мінскага гарнізона яшчэ тады паведаміла: "Крымінальная справа па факце смерці вашага сына спыненая з–за адсутнасці складу злачынства".

Пасля візіту да міністра абароны жанчына перанесла два гіпертанічныя крызы, 50 дзён запар праляжала ў бальніцы. А з адміністрацы прэзідэнта даслалі ліст: "Ваш зварот накіравалі для разгляду ў Міністэрства абароны". Кола замкнулася. Адрасоў салдат, якія служылі разам з сынам, не далі.

– Я не хачу, каб моладзь прайшла ў арміі праз тыя ж выпрабаванні, што і мой сын. Хачу, каб ніводная маці не падала на труну з сынам. Хачу, каб нейкія законы ў арміі былі прынятыя, каб там быў парадак, – гаворыць жанчына.

І ў цяперашні свой дзень нараджэння Соф'я Субаткоўская надзене чорнае. За сталом не будзе весялосці, і першая чарка ўздымецца за Сашу. У ягоным блакноце перад развітальным лістом стаіць дата – 25.07.95 – дзень прызыву, і словы: "У гэты дзень я зачыніў дзверы свайго дома, каб пагрукаць у іх праз паўтара года. У гэты дзень я хлеб пачаў называць "пайкай", а жыццё – "службай".

Адрас Соф'і Субаткоўскай у рэдакцыі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 1.09 | 8.09 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 580 | 580 |
| Кілбаса салямі | 1 кг | 913 | 1003 |
| Сасіскі | 1 кг | 887 | 887 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 425–465 | 467 |
| Рыс | 1 кг | – | 300 |
| Цукар | 1 кг | 170 | 165 |
| Грэчка | 1 кг | – | – |
| Алей | 1 л | 460 | 440 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 184 | 182 |
| Маянэз | 250 г | 80 | 80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 550 | 550 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 200 | 200 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 160 | 170 |
| Лімоны | 1кг | 510 | 500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 90 | 250 |
| Масла | 1 кг | 600 | 800 |
| Тварог | 1 кг | 200 | 200 |
| Малако | 1,5 л | 90 | 90 |
| Бульба | 1 кг | 70 | 65 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 220 | 220 |

| | | |
|---|---|---|
| яблыкі | 1 кг | 50–80 |
| кавун | 1кг | 70 |
| капуста | 1 кг | 45 |
| агуркі | 1 кг | 80 |
| памідоры | 1 кг | 150 |
| перац | 1 кг | 180 |
| цыбуля рэпчатая | 1 кг | 130 |
| вінаград | 1 кг | 350 |

ПАЛІВА–99

# Прыехалі!?

АСТРАВЕЦ. Ужо ў другі раз за летні сезон пасажыры Астравеччыны вымушаныя дабірацца ў вёскі ці ў райцэнтр на пракладных.

Таму, што прыпынены рух аўтобусаў, у значнай ступені ў жніўні пасадзейнічала «бітва» за ўраджай, бо асноўныя пастаўкі паліва ішлі ў калгасы, а іншыя прадпрыемствы і гаспадаркі мусілі абыходзіцца без яго. Толькі аўтобусныя маршруты на Гродна і Мінск не пацярпелі змяненняў.

На сёння, відавочна, сітуацыя зайшла ў тупік. У аўтапарку №4 дакладна прадказаць стабільныя пастаўкі паліва, а з імі і адноўлены рух аўтобусаў, не бяруцца..

Людзі жартавалі, што аўтобусы пойдуць разам з дзецьмі (гэтыя, натуральна, у школу) – 1 верасня. Не атрымалася, таму не выключана, што і зімой пасажыры будуць хадзіць пешшу. Каб не замерзнуць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*




Тыповая ў апошнія месяцы абвестка ля аўтазапраўчных станцый. Маладзечна, летняя раніца на адной з гарадскіх АЗС.

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

МЕРКАВАННІ

# Тут вучаць забіваць

Служыць у арміі цяжка, але ёсць абставіны, па якіх я пайшоў бы ва ўзброеныя сілы нават у тым выпадку, каб мне гэта было не абавязкова.

Усе цяжкасці арміі з'яўляюцца адначасова каталізатарам і павелічальным шклом, якія паскараюць і павялічваюць рысы асобы. Дужы стане дужэйшым. Разумны – разумнейшым. Хітры – хітрэйшым... Каб выжыць, цела і мазгі працуюць кожную хвіліну, уключаюцца рэзервныя магчымасці арганізма. У некаторых выяўляюцца таленты, якія б ніколі не выявіліся на гражданцы.

Да таго ж, у арміі вучаць такому, якому болей не навучаць нідзе! Напрыклад, у арміі вучаць забіваць! Бо здабыць перамогу можна, толькі знішчыўшы ворага. Гэтае ўменне дае табе сілу ў сутычцы з "адмарозкамі", якія нагледзеліся баявікоў, некалькі разоў схадзілі на каратэ і адчулі сябе крутымі бандытамі. Тады ты разумееш, што крутыя бываюць толькі вараныя яйкі, а яны б'юцца, як і ўсе астатнія.

У арміі нельга схавацца за дарагім адзеннем, за сценамі кватэры ці вокнамі машыны, бо форма не абязлічвае індывідуальнасць, яна падкрэслівае яе.

Усё гэта можна даведацца, толькі адслужыўшы ва ўзброеных сілах.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ЗДАРЭННІ

# Як пераехаць пераезд

АСТРАВЕЦ. У нядзелю ў 17–40 на ахоўваемым чыгуначным пераездзе ст. Гудагай жыхар Астравеччыны, які ехаў на аўтамабілі "Мазда–323", парушыў правілы дарожнага руху. Пры забараняючым сігнале аўтагужавога святлафора і закрытым шлагбауме ён выехаў на чыгуначнае палатно, у выніку чаго адбылося сутыкненне машыны з прыгарадным цягніком "Гудагай–Маладзечна".

Вадзіцель у цяжкім стане дастаўлены ў Астравецкае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне, а яго жонцы, якая знаходзілася ў машыне, медыцынская дапамога ўжо не спатрэбіцца. У выпадку выздараўлення вінаватага чакае суд; у адваротным – малалетнія дзеці застануцца поўнымі сіротамі.

Асноўнай прычынай трагедыі з'явілася кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення. На гэтым пераездзе, дарэчы, за апошнія гады адбылося шмат дарожна–транспартных здарэнняў. І амаль у кожным з іх не абыходзілася без чалавечых ахвяраў.

*Сяргей ВАСІЛЕВІЧ,*
*начальнік аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі Маладзечанскага АУС на транспарце.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Пра забойства даведаліся праз 2 гады

*СМАРГОНЬ. Тут прайшло выязное пасяджэнне Гродзенскага аблсуда. Разглядалася справа аб забойстве маладога жыхара Смаргоні, што адбылося два гады таму.*

У красавіку 1997 года шэсць маладых хлопцаў пасля сумеснага распіцця спіртнога ў час сваркі люта збілі аднаго з кампаніі. Калі ўбачылі, што той не падае прыкметаў жыцця, вырашылі пазбавіцца ад трупа. Для вернасці нанеслі яшчэ два нажавыя раненні, а затым ноччу на калясцы вывезлі труп за горад і закапалі яго ў кар'еры каля звалкі на глыбіню паўтара метра. Пра страшнае злачынства ніхто тады не даведаўся, а забітага, па заяве яго маці, міліцыя шукала як без весткі прапаўшага.

Толькі праз два гады работнікі міліцыі даведаліся пра забойства. Удзельнікі злачынства былі ўстаноўленыя, яны ўсё расказалі і паказалі месца, дзе закапалі цела забітага. На пошукі трупа пайшло каля двух тыдняў – увесь гэты час экскаватары і трактары рабілі раскопкі, таму што дакладнае месца паказаць ніхто не мог. Калі цела забітага знайшлі, судмедэкспертыза дала заключэнне аб прычынах смерці, што пацвердзіла ўстаноўленыя раней абставіны злачынства.

На лаўцы падсудных апынуліся пяць хлопцаў. Адзін з абвінавачваных ужо праходзіў службу ў арміі, дзе падарваўся на міне, атрымаў цяжкае раненне і праходзіць лячэнне ў шпіталі. Справа ў адносінах да яго выдзеленая ў асобную вытворчасць, суд над ім адбудзецца пасля яго выздараўлення.

Абласны суд вынес прыгавор. Усе падсудныя ў момант здзяйснення злачынства былі непаўналетнія, таму мера пакарання не магла перавышаць 10 год пазбаўлення волі. Суд вызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ўсіх падсудных на тэрмін ад 9 да 10 год з улікам асобы вінаватых і іх удзелу ў забойстве.

Прысуд яшчэ могуць абскардзіць і падсудныя, і пацярпелыя.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*

